# Хрыстос уваскрос - і Беларусь уваскрэсне!

ПАГОНЯ

Чацвер
20 красавіка 2000 г.
№ 13 (460)
Кошт 70 рублёў

## Суботнік прызначаны на Вялікдзень

**Беларускі ўрад улічыў просьбы працоўных - і то нарэшце! На 22 красавіка прызначана правядзенне суботніка. Нашыя рабочыя захацелі папрацаваць бясплатна восем гадзін альбо пералічыць адпаведную суму за дзень працы любым іншым спосабам. Сцяг ім у рукі!**

Асабліва ўражвае імпэт нашых працоўных каталіцкага веравызнання. У вялікую суботу яны праявяць самы сапраўдны стаханаўскі падыход у справе выканання свайго грамадзянскага абавязку. Паміж загартоўкай сталі і ворывам палеткаў яны наведаюць імшу, пасвенцяць яйкі, прыбяруцца ў хатах, згатуюць святочную ежу.

Дзякуй ураду за тое, што ён не даў загубіць гэтую ініцыятыву!

**Сяргей Самасей**

## Гарадзенцы зацікавілі гера Міхаэля Грынца

**У Гродне будзе рэалізоўвацца нямецка-беларускі навукова-даследчы праект па вывучэнню спажывецкага попыту насельніцтва.**

Асаблівую цікавасць ён уяўляе для прафесара сельскагаспадарчага факультэта універсітэта імя Марціна Лютэра Міхаэля Грынца. Непасрэдна ягонай рэалізацыяй будзе займацца эканамічны факультэт Гарадзенскага сельскагаспадарчага інстытута. Сутнасць праекта заключаецца ў вывучэнні спажывецкага попыту беларусаў, у першую чаргу на прадукты харчавання. Адбудзецца анкетаванне 80-100 чалавек, і затым на працягу года будуць вывучацца іх патрэбы.

Пасля вывучэння і абагульнення звестак нямецкі прафесар параўнае іх з сітуацыяй у Германіі. Вынікам будзе публікацыя навуковай працы. У траўні Міхаэль Грынц прыедзе ў Гродна. Тады на працягу тыдня пройдзе пробнае анкетаванне і будуць абагульнены першыя вынікі. А ў чэрвені пачнецца непасрэдная рэалізацыя праекта.

**Ася Куніцкая**

## Паўлоўскі сустрэўся з Сангайлам

**19 красавіка ў Гродне адбылася рабочая сустрэча старшыні Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Беларусі Аляксандра Паўлоўскага з галоўным камісарам дэпартамента пагранічнай паліцыі пры МУС Літоўскай Рэспублікі Альгімантасам Сангайлам.**

Як паведамілі ў прэс-цэнтры Дзяржкамітэта пагранвойскаў, кіраўнікі пагранічных ведамстваў абмяняліся інфармацыяй пра абстаноўку на беларуска-літоўскай мяжы, абмеркавалі стан пагранічнага супрацоўніцтва і перспектывы яго развіцця. У прыватнасці, асаблівую ўвагу бакі надалі праекту міжурадавага пагаднення «Аб дзейнасці пагранічных упаўнаважаных», а таксама некаторым змяненням і дапаўненням ў часовае міжурадавае пагадненне аб спрошчаным пропуску прыгранічнага насельніцтва праз дзяржаўную мяжу.

Акрамя таго, А.Паўлоўскі і А.Сангайла абмяняліся думкамі адносна стану дэмаркацыі беларуска-літоўскага ўчастка мяжы, некаторых аспектаў правядзення сумесных апаратыўна-вышуковых мерапрыемстваў на мяжы і пытанняў супрацоўніцтва ў галіне службовай сабакагадоўлі.

**Вячаслаў Будкевіч**




21, 22 красавіка - воблачна, з праясненнямі, вецер пераменнага напрамку. Тэмпература паветра - уначы +4...+6, удзень +18...+23.

# Велікодныя пажаданні Ксяндза Біскупа Аляксандра Кашкевіча

**Дарагія ў Хрысце Пану Браты і Сёстры!**

Штогадовыя святы Уваскрэсення Пана адкрываюць перад намі час, у якім нанова адраджаецца надзея. З года ў год мы перажываем Таямніцу падзеі, якая змяніла перспектыву існавання ўсяго сусвету: Езус Хрыстус, Божы Сын, прысланы ў свет Айцом і ўкрыжаваны за нашыя людскія правіннасці, паўстаў з памерлых! Жыццё аказалася мацнейшым за смерць, а Божая любоў да стварэння - мацнейшай за людскі грэх. Скажоны грахом вобраз Бога ў чалавеку, апанаваная слабасцямі людская натура былі аздароўлены адкупляльнай моцай, якой Божы Сын перамог грэх і смерць.

Ад дня Уваскрэсення «ніхто з нас не жыве для сябе і ніхто не памірае для сябе: калі ж паміраем - паміраем для Пана. Бо для таго Хрыстус памёр і вярнуўся да жыцця, каб запанаваць над памерлымі, як і над жывымі» (Рым 14, 7-9).

Паяднанне з Богам, вяртанне да сяброўства з Ім, магчымасць радаснага перажывання Божага сыноўства... Вось праўда гэтых радасных дзён! Чалавек, які блукаў у цемры граху і ўласнага бяссілля, атрымаў святло на дарозе жыцця і моц, якая чыніць яго сунаследнікам Божага Каралеўства.

Гэта сталася дзякуючы ахвяры Божага Сына, Які, паслухмяны любячай волі Айца, не толькі прыняў у таямніцы Уцелаўлення нашу людскую натуру, але таксама ўзяў на сябе нашыя грахі, каб адкупіць іх на крыжы.

Сяголетнюю Урачыстасць Змёртвыхпаўстання Пана - памятку перамогі Бога-Чалавека над злом і смерцю, мы перажываем у Год Вялікага Юбілею



Хрысціянства. Дваццаць стагоддзяў Касцёла, які вырас з кораня Евангелля і моцы Уваскрэслага, з'яўляюцца найбольш красамоўным доказам праўдзівасці Хрыстовай навукі і Яго паўстання з памерлых. На працягу мінулых стагоддзяў падчас пераследаванняў Касцёл неаднаразова перажываў драму крыжа! Столькі разоў здавалася, што ён ужо пахаваны, што магіла апячатана дзяржаўнымі службамі і для надзейнасці да яе прыстаўлена ахова, каб ніхто не адважыўся прыгадваць пра Бога і пра нашу несмяротную душу - вобраз Творцы ў чалавеку. Аднак заўсёды надыходзіў ранак Змёртвыхпаўстання! Ніякая сіла не здолела спіхнуць Евангелле - Добрую Навіну - у цемру нябыту.

Касцёл удзельнічаў у цярпенні Хрыста, а таму, дзякуючы Яго Уваскрэсенню, таксама і ў радасці Велікоднай таямніцы. Гісторыя дваццаці стагоддзяў з'яўляецца доказам, што любоў Бога да чалавека заўсёды аказвалася мацнейшай за смерць! А прынцыпам Божай любові з'яўляецца міласэрнасць да грэшніка, які адварочваецца да зла, каб адкрыцца на ласку, на паяднанне з Богам і бліжнім, на паўнату жыцця ў Хрысце.

Касцёл заўсёды абвяшчаў Бога, «Які ёсць шчодрым на міласэрнасць» і заклікаў чалавека вярнуцца да Яго праз навяртанне. Чарговым напамінам пра гэта будзе кананізацыя 30 красавіка ў Рыме благаслаўлёнай сястры Фаустыны - «Апостала Божай міласэрнасці».

Дарагія чытачы - Браты і Сёстры, злучаныя ў супольнасць праз святы Хрост, а таксама ўсе, хто шукае Праўды: няхай дні Змёртвыхпаўстання напоўняць вас радасцю і глыбокім перакананнем, што Хрыстус ёсць Панам нашай гісторыі, сённяшняга дня, будучыні і нашай вечнасці: Ён учора, сёння і навекі! Няхай Уваскрэслы Езус адорыць усіх вас свабодай Божых дзяцей і сваім блаславеннем.

# Галоўны контраргумент - Нёман

**На разгляд у Гарадзенскі абласны і гарадскі выканаўчыя камітэты, а таксама ў Абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя паступіў праект (дакладней, пакуль толькі Хадайніцтва аб намерах) будаўніцтва каскада ГЭС на рацэ Нёман. Пакуль гаворка вядзецца пра дзве электрастанцыі: Гарадзенскую, плаціна якой можа з'явіцца крыху вышэй горада ў раёне пасёлка Берагавы, і Нямноўскую - ніжэй па цячэнню ў раёне вёскі Пальніца.**

Замоўцам праекта выступае Беларускі дзяржаўны энергетычны канцэрн «Белэнерга» і яго гарадзенскае аддзяленне - аб'яднанне «Гродназнерга». Матывацыя простая і зразумелая: дадатковая крыніца электраэнергіі зменшыць залежнасць эканомікі Гарадзеншчыны ад пастаўкі электраэнергіі з суседніх краінаў. Як вядома, электрычнасць да нас прыходзіць з Расеі, Літвы, а газ і мазут (сыравіна для спальвання ў цеплаэлектрацэнтралі) з Расеі. Таксама ні для каго не сакрэт, што за газ расплочваецца ўсё цяжэй. Да таго ж, расіяне час ад часу патрабуюць аддаваць пазыкі грашыма, а не таварамі і палохаюць «апошнім кітайскім папярэджаннем». Тое ж і з Літвой. А з прычыны таго, што краіна несупынна бяднее, вырашылі максімальна выкарыстоўваць унутраныя рэзервы. Разумныя галовы рашылі, што для гэтага акурат прыдатная рака Нёман.

Ідэя каскада ГЭС, канешне ж, не новая. Але ў перыяд перабудовы і яшчэ некаторы час пасля яе пра гэта нельга было казаць услых. Дастаткова актыўны на той час грамадскі рух змёў бы гэтую ідэю імгненна, а яе аўтары пацярпелі б фіяска (прыгадаем хаця б будаўніцтва біяхімзавода ў Скідалі, якое не адбылося з гэтай жа прычыны). Але зараз іншы час. Улада ў гэтай сітуацыі меней за ўсё думае пра людзей і прыроду.

Вось, напрыклад, як аргументуюць свае «намеры» замоўцы будаўніцтва Гарадзенскай ГЭС: «Гарадзенская вобласць мае сур'ёзны гідраэнергетычны патэнцыял. **Менавіта таму** неаднойчы прапаноўваліся і вывучаліся разнастайныя варыянты будоўлі каскада ГЭС на рацэ Нёман». Звярніце ўвагу на логіку. Яна жалезабетонная, як плаціна: раз ёсць рака, грэх не будаваць на ёй электрастанцыі. Зрэшты, нескладана зразумець замоўцаў і праектыроўшчыкаў. Дазвол на ажыццяўленне гэтага праекта дасць ім бюджэтныя інвестыцыі. (Не будзем пакуль задавацца пытаннем, колькі спатрэбіцца на гэта грошай і каму давядзецца яшчэ мацней зацягнуць пояс, каб хапіла энергабудаўнікам). А каму не хочацца атрымаць гарантаваную дзяржзамову пры адсутнасці попыту на свае распрацоўкі?

Аўтары Хадайніцтва падаюць масу аргументаў на карысць ГЭС на Нёмане. Папершае, як кажуць яны, «Гродназнерга» атрымае «адчувальнае зніжэнне выдаткаў на імпарт паліва і электраэнергіі». Па-другое, гэты «каштоўны рэзерв» электраэнергіі асабліва спатрэбіцца ў вясноава-летне-асенні перыяд, калі адзіная буйная станцыя Гарадзенскай энергасістэмы цеплаэлектрацэнтралі-2 значна зніжае сваю магутнасць. Але асабліва мілым падаецца трэці аргумент: «стварэнне вадасховішча поруч з непазбежнымі негатыўнымі наступствамі...дасць шэраг дадатковых станоўчых эфектаў. Гэта развіццё інфраструктуры паўднёва-ўсходняй часткі г.Гродна, з'яўленне новай зоны адпачынку.., а таксама стварэнне запасаў вады, у якой мае надзвычайную патрэбу горад. Стварэнне ДОБРАЎПАРАДКАВАНАГА вадасховішча, НЕСУМНЕННА, будзе садзейнічаць развіццю воднага турызму і суднаходства». Вось як! Апошні аргумент датычыць першай у каскадзе - Гарадзенскай ГЭС. Але ўсё гэта можна адрасаваць і да другой - Нямноўскай, а значыць, усіх тых выгодаў будзе ў два разы болей. Казка!

**Ніна Палуцкая**

**Працяг на стар. 3**

# За кратамі таксама можна змагацца з рэжымам!

**Сяргей Сцяпанавіч Мальчык нарадзіўся ў вёсцы Любішчыцы Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці 12 снежня 1960 года. Скончыў школу з залатым медалём у 1978 годзе і адразу паступіў у Гарадзенскі медінстытут. Пасля заканчэння працаваў асістэнтам, дацэнтам на кафедры патафізіялогіі. Кандыдат медычных навук. Жанаты, мае двух сыноў. Старшыня гарадзенскай гарадской арганізацыі БНФ «Адраджэньне», кіраўнік Гарадзенскага праваабарончага цэнтра «Вясна».**


Сяргей Мальчык выйшаў пераможцам у барацьбе з рэжымам

ПАГОНЯ паведамляла ў папярэдніх нумарах пра абвешчаную Сяргеем Мальчыкам галадоўку, якую ён трымаў 10 сутак падчас знаходжання пад арыштам у спецпрыёмніку Кастрычніцкай міліцыі горада Гродна. Сяргей выйшаў пераможцам у гэтым змаганні з жорсткай карнай сістэмай. Сёння - ён госць чытачоў ПАГОНІ.

*- Супраць чаго была накіраваная галадоўка?*

- Я выказаў нязгоду з незаконнай пастановай суда Ленінскага раёна ад 5 красавіка, паводле якой быў арыштаваны «за арганізацыю несанкцыянаванага шэсця» 25 сакавіка ў Дзень Волі. Мне не далі азнаёміцца з пратаколам, і прачытаў я яго толькі ў судзе, калі запатрабаваў гэтага. Суд не задаволіў мае хадайніцтвы пра выклік у якасці сведкаў прадстаўнікоў гарвыканкама Сяргея Анішчыка, начальніка Ленінскага РАУС Станіслава Васілеўскага і яго намесніка Івана Шмакава, складальніка пратакола капітана Пеліхана. Замест іх былі дапытаны шэраговыя супрацоўнікі міліцыі, якія стаялі ў ачапленні і выконвалі загады начальства.

А гарадскія ўлады маглі пазбегнуць усялякіх канфліктаў: яны разумелі, што ад месца збору каля Палаца тэкстыльшчыкаў удзельнікі мітынгу мусяць прайсці да вызначанага гарвыканкамам месца правядзення мітынгу ў Новым парку - не ляцець жа па паветры. Самы бяспечны шлях праходзіць праз пешаходную зону - вуліцу Савецкую, потым па вуліцах Віленскай і Лермантава. Зрэшты, няма ніякіх законных падставаў забараняць жыхарам горада хадзіць па вуліцах, тым больш, у спецыяльнай пешаходнай зоне. Замест гэтага Васілеўскі прапанаваў рухацца праз вузкі драўляны мост з разваленымі ад старасці ходнікамі. Мы не вар'яты, таму не пайшлі туды, дзе магла адбыцца трагедыя. За гэта нам пагражалі міліцэйскім спецназам, а мяне абвінавацілі ў несанкцыянаваным шэсці.

*- Ці варта было галадаць, ведаючы, што пэўнаму кшталту людзей гэта дасць задавальненне?*

- Калі цябе даставілі ў кайданках у камеру, то ёсць дзве магчымасці: скласці рукі, цярпець... гэта якраз тое, чаго дамагаюцца ўлады, калі думаюць: «Хай панюхае гэтага смуроду». Другая магчымасць - выказаць маральную нязгоду, напрыклад, праз галадоўку, ці падачу скаргаў на несправядлівае, незаконнае рашэнне. Спалучэнне двух апошніх метадаў дае нядрэнныя вынікі. Мною напісана каля дзесяці скаргаў - у санітарны кантроль, вышэйстаячы суд, пракуратуру...



*- Нядрэнныя вынікі - гэта што?*

- Чаго ўдалося практычна дамагчыся: вада, папера, газеты перадаваліся на першым запатрабаванні; калі напачатку ў спецпрыёмніку на 20 месцаў было 40 арыштантаў, то потым стала менш як дваццаць, а ў маёй камеры, разлічанай на два месцы, замест чатырох сядзельцаў стала менавіта два; людзей пачалі выводзіць на працу, калі раней маглі пратрымаць 15 сутак у смярдзючай камеры - горш за жывёліну; дазволілі душ для зняволеных, чаго не было ўжо шмат гадоў - пасля гэтага арыштанты пачалі звяртацца да мяне за парадамі і самі нешта раілі мне. Галадоўка паскорыла пачатак нагляднага разгляду моёй адміністрацыйнай справы.

*- Наконт апошняга - што сказаў абласны суд?*

- Пакуль нічога. Чакаем...

*- Адсідка паўплывала на далейшыя планы?*

- Быў час шмат думаць, а гэта ўплывае на светапогляд, як мне падаецца. Таму мае намеры сталі больш вызначанымі - змагацца і перамагаць.

*- А вось сённяшняе начальства, яно магло б так зацята абараняць свае погляды, свае прынцыпы жыцця, сваю годнасць?*

- Не ведаю, але спадзяюся, што і ў іх будзе магчымасць выпрабаваць сябе, моц свайго духа.

*- У дзень вызвалення, у мінулую суботу, Вас сустракалі дзесяткі людзей...*

- І я хачу выказаць усім вялікую падзяку. Найперш жонцы, якая адразу прынесла ваду, паперу. Потым Канстанцін Жынь са двара крычаў, так што я чуў у камеры: «Сяржук, трымайся». Далей усе іншыя сябры - яны забяспечылі ўсім, а газеты я перадаваў амаль ва ўсе камеры.

Падтрымка вартая многага - напачатку мне не жадалі выдаваць нават ручку. Усё змянілася, калі напісалі СМІ, Сойм БНФ звярнуўся да місіі АБСЕ з просьбай праверыць умовы ўтрымання, вельмі дапамаглі прадстаўнікі з Хельсінкскага камітэту, якія звярнуліся да кіраўніцтва РАУС па дазвол стварыць камісію з удзелам прэсы і медыкаў для ацэнкі прымоваў у спецпрыёмніку. На маё імя ў сядзібу БНФ прыходзілі шматлікія лісты падтрымкі. Яшчэ раз выказваю ўсім падзяку.

Гутарыў
**Сяргей Самасей**

# «Беларусь павінна быць Беларуссю»

**У мінулую пятніцу Гарадзенская філія БСДГ публічна выступіла супраць ганебных судоў над арганізатарамі Дня Волі ў Гродне.**

У 12 гадзін дня сябры Грамады ладзілі на Савецкай плошчы горада несанкцыянаваны пікет. На плакатах і ў заяве партыі, якая раздавалася гарадзенцам, грамадоўцы патрабавалі перагледзець судовыя справы арганізатараў Дня Волі Сяргея Мальчыка і Адольфа Зацэпіна.

Паводле словаў старшыні БСДГ Віктара Сазонава, гэтай акцыяй партыя выказвала шчырую падтрымку Сяргею Мальчыку, які ў тыя дні працягваў трымаць галадоўку ў ізалятары часовага ўтрымання Кастрычніцкага РАУС.

Пікет доўжыўся каля 30 хвілінаў, аднак гарадзенцы выкарысталі і гэтую магчымасць падыскутаваць. Спрэчкі вяліся ў асноўным вакол беларускай незалежнасці.

«Беларусь павінна быць Беларуссю» - пераважала ў размовах.

Па першым патрабаванні міліцыі ўдзельнікі пікету спынілі акцыю.

Падчас пікету адбыўся досыць камічны выпадак. У момант з'яўлення міліцыянтаў нейкая жанчына, якая знаходзілася ў гэты час каля пікету, заявіла: «А меня не арестуют, я же разговариваю по-русски».

**Павал Мажэйка**

# Беларусь ператвараецца ў вайсковы плацдарм

**План стварэння сумеснай ваеннай групоўкі Беларусі і Расеі кіраўнік БНФ «Адраджэньне» Вінцук Вячорка назваў « часткай плана рэстаўрацыі Расейскай імперыі».**

Нагадаем, што пра стварэнне 300-тысячнай беларуска-расейскай групоўкі заявіў Аляксандр Лукашэнка, выступаючы 11 красавіка са штогадовым зваротам да парламента. «Наша Беларусь ператвараецца ў вайсковы плацдарм імперыі, якая зноў спрабуе паказваць зубы цывілізаванаму свету», - гаворыцца ў заяве Вінцука Вячоркі. Ён папярэджвае, што «ў выпадку рэалізацыі вар'яцкага плана ўводу ў Беларусь расейскіх войскаў, незалежніцкія сілы будуць разглядаць гэты захад як акупацыю з усімі наступствамі».

Кіраўнік БНФ «Адраджэньне» заклікае дэмакратычныя сілы Еўропы і Амерыкі «прадухіліць мілітарысцкае вар'яцтва і не дапусціць знішчэння незалежнасці Беларусі».

**Наталля Кулагіна**

# Вось прыедуць чэхі...

**Удзел у чарговай акцыі пратэсту беларускіх дэмакратычных сілаў, Чанобыльскім шляху, зноў возьмуць еўрапейскія парламентарыі. Следам за польскімі сенатарамі, якія былі арыштаваныя на Дзень Волі, Беларусь наведаюць тры прадстаўнікі чэшскага Сенату.**

Чэшскі Сенат апошнім часам надае шмат увагі палітычнай сітуацыі ў Беларусі. 16 сакавіка, адразу пасля Маршу Свабоды-ІІ, былі праведзеныя парламенцкія слуханні па Беларусі. Падчас слуханняў з залы Сенату быў выгнаны прадстаўнік беларускай Амбасады, які пачаў сваю прамову па-руску і без перакладчыка. 19 сакавіка была прынятая рэзалюцыя, дзе выказвалася асуджэнне дзеяннем рэжыму Лукашэнкі. Новы крок - візіт сенатараў непасрэдна ў Беларусь.

Акрамя ўдзелу ў Шляху, Міхал Жантоўскі, старшыня камісіі Сенату па замежных справах, Ян Румл, старшыня партыі «Унія свабоды», былы міністр унутраных справаў і старшыня фундацыі «Чалавек у бядзе» Томаш Пояр, маюць намер правесці шэраг афіцыйных і неафіцыйных сустрэчаў.

**Павал Мажэйка**

# У Зэльве чатыры разы забаранялі, а на пяты дазволілі

**Чатыры разы на працягу года мясцовыя ўлады Зэльвы паводле надуманых прычынаў адмаўлялі групе грамадзянаў правесці ў горадзе пікет пратэсту супраць збяднення народа. Але патрыятычна настроеныя Юрый Качук і Анатоль Стручынскі дамагліся свайго.**

15 красавіка санкцыянаваны пікет быў праведзены на мясцовым стадыёне, дзе якраз праводзілася спартовая алімпіяда школьнікаў. 18 чалавек разгарнулі плакаты і на працягу дзвюх гадзін вялі гарачыя дыскусіі з землякамі. Стадыён шчыльна ачапілі міліцыянты. Надпісы на плакатах заклікалі: «Пуцін, каго будзеш «мачыць» у Беларусі?», «Жыве Беларусь!», «Урад для народа, а не народ для ўрада!», «Улада Закону!».

Пікет меў шырокі розгалас у гарадку. Арганізатарамі пікету былі прадстаўнікі Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі - БНФ.

**Антон Лабовіч**

# Берасце - перспектыўны рэгіён, Гродна - не

**Да такога становішча давялі Гарадзеншчыну бесперспектыўныя чыноўнікі**

Амерыканскае Агенцтва міжнароднага развіцця правяло 11-13 красавіка ў Берасці канферэнцыю. Прысутнічалі амбасадары Злучаных Штатаў у Беларусі Дэніэл Спекхард і Польшчы - Марыюш Машкевіч. Абмяркоўвалася тэма развіцця памежнага рэгіёна, бо, на думку прадстаўнікоў агенцтва, Берасцейская вобласць мае аптымальныя магчымасці для пошуку згоды паміж органамі мясцовага кіравання, дзелавымі коламі і грамадскімі арганізацыямі. Гэта дае магчымасць спрыяць развіццю бізнесу, аховы здароўя, навукі, экалогіі.

Берасцейшчына разьвіваецца - гэта вельмі добра. Але ўзнікаюць пытанні. Амерыканскі амбасадар Дэніэл Спекхард двойчы наведваў горад Гродна, даволі прыгожа казаў пра тое, што тут ён адчувае сябе, як у Еўропе. Тым не менш, пра «аптымальныя магчымасці для згоды» не ўзгадваў. Чаму? Кепска прымалі?

Думаецца, што прычына зусім не ў гасціннасці берасцейцаў - амбасадара прымалі паводле дыпламатычнага пратакола і ў Берасці, і ў Гродне. Геаграфічныя, эканамічныя, культурныя асаблівасці рэгіёнаў дастаткова падобныя. Аднак, Гродна не разглядаецца як будучы беларускі суперрэгіён. Таму што мясцовыя ўлады так і не знайшлі агульнай мовы з амерыканскімі і польскімі прадстаўнікамі (нагадаем, што цяперашні польскі амбасадар Марыюш Машкевіч быў консулам у Гродне). Кіраўнікам горада і вобласці няма чаго прапанаваць ні замежнаму бізнесу, ні мясцоваму камерсанту, ні грамадскім арганізацыям. Таму замежны капітал выбірае Берасце.

Практычна бяздзейнічае на Гарадзеншчыне еўрарэгіён «Нёман» (Беларусь, Польшча, Літва). Пацяху трацыцца адзін мільён экю, выдаткаваны Еўрасаюзам на ахову прыроды рэгіёна, - без аніякіх бачных вынікаў. Памерла ідэя стварэння ў Гродне свабоднай эканамічнай зоны.

Затое гарадзенскае начальства аднаўляе камсамол, аграрную партыю і змагаецца з палітычнай крамолай. А якая ў гэтай справе можа быць згода з капіталістамі і дзелавымі коламі?

**Міхась Капялюш**

# Новы амбасадар у Польшчы

Новым амбасадарам Беларусі ў Польшчы з 31 сакавіка прызначаны Мікалай Крэчка. З 1997 года спадар Крэчка - Генеральны консул у Беластоку, а да гэтага працаваў на розных пасадах у Міністэрстве ўнутраных справаў.

**Сяргей Самасей**

# Ашукваюць пенсіянераў

**Пенсіянеры ў Рэспубліцы Беларусь складаюць амаль чацвёртую частку ўсяго насельніцтва. Да таго ж, гэта самая неабароненая частка грамадства. Пастаянны рост цэнаў на тавары і паслугі значна апярэджае прырост пенсіяў і матэрыяльных дапамог. Многім састарэлым людзям не заўсёды хапае пенсіі, каб разлічыцца за камунальныя паслугі і хоць неяк пракарміцца.**

Невыпадкова днямі Берасцейскі аблвыканкам правёў аналіз мясцовага пенсійнага забеспячэння. У выніку высветлілася, што нават сярэдняя пенсія ніжэйшыя за мінімальны «спажывецкі кошык». Таму берасцейцы прынялі рашэнне адкрыць у гарадах спецыяльныя магазіны па абслугоўванню пенсіянераў і даць туды прадукты па больш танных коштах. Аднак, на наш погляд, гэткім чынам праблему не вырашыш, таму што большасць гэтых тавараў да пенсіянераў не дойдзе. Але ж, балазе, што хоць звярнулі ўвагу на вышэйшым узроўні на гэтую праблему. Іншыя ж вобласці і гэтага не робяць, быццам бы ўсё ў парадку.



А Вы спрабавалі жыць на адну пенсію?

Мне часта даводзіцца бываць на нашым гарадзенскім рынку, дзе гандлююць прадуктамі харчавання. Не аднойчы бачыў, як напрыканцы працоўнага дня старэнькія бабулі ходзяць ля прылаўкаў і просяць у прадаўцоў, каб тыя далі, альбо прадалі па больш нізкіх цэнах рэшткі прадуктаў. Аднак і тут ім не заўсёды шанцуе. Мяснікі-перакупшчыкі, дык тыя нават за абрэзкі скуры ды амаль голыя косткі просяць па 500 рублёў і болей, што многім пенсіянерам не па кішэні. Такімі адкідамі, якімі сёння жывіцца шмат хто з пенсіянераў, калісьці добры гаспадар нават сабаку не карміў. А колькі сёння сярод пенсіянераў тых, хто збірае бутэлькі на сметніках, хто сядзіць на марозе ды ў слоту з працягнутай рукою. Вядома ж, не ад добрага жыцця. А многія з гэтых небаракаў усё жыццё адпрацавалі на карысць Радзіме, спадзеючыся на шчаслівую старасць. Здавалася б, Радзіма павінна была забяспечыць хаця б прыстойнае жыццё састарэлым. Аднак, пакуль што ашукаць пенсіянера стараецца хто толькі можа, не гадзь нават таго, што ён зарабіў. Ашуканскім аказаўся і Закон Рэспублікі Беларусь «Аб пенсійным забяспячэнні», які прадугледжвае, што пры налічэнні пенсіі ў працоўны стаж улічваюцца толькі поўныя гады. Няпоўныя ж гады (калі нават будзе не хапаць некалькі дзён да поўнага года) у лік не прымаюцца.

Так, напрыклад, я нарадзіўся 15 студзеня 1933 года, пачаў працаваць 10 лютага 1951 года ва ўзросце семнаццаці гадоў. Да 10 траўня 1993 года бесперапынна адпрацаваў у адным ведамстве да налічэння мне пенсіі. Па маіх падліках, агульны стаж у мяне павінен быў скласці 42 гады і тры месяцы. Аднак пры налічэнні першай пенсіі 10 траўня 1993 года мне налічылі стаж - 41 год і 11 месяцаў, спасылаючыся на Закон «Аб пенсійным забеспячэнні». Паводле яго быццам бы ў стаж уваходзіць толькі час з моманту першага ўладкавання на працу і па той дзень, калі надышоў час на атрыманне пенсіі. Хаця ў Законе напісана вельмі незразумела: «Час, адпрацаваны пасля наступлення тэрміну адыходу на пенсію, залічваецца ў стаж, калі пенсіянер не атрымліваў пенсіі». Час майго адыходу не пенсію надышоў 15 студзеня 1993 года. Аднак я працягваў працаваць да 10 траўня і за гэты час пенсіі не атрымліваў. Аднак гэтыя месяцы мне ў стаж не ўлічылі, спасылаючыся на тое, што мне 15 студзеня 1993 года адразу трэба было афармляць пенсію, і не атрымліваць яе да 10 траўня. Тады б гэты час залічылі б у стаж. Вось і са мною адбылося, як у той прымаўцы: «Без бумажки ты - букашка, а с бумажкой - человек». Нягледзячы на тое, што я працаваў з 15 студзеня па 10 траўня 1993 года, пенсіі не атрымліваў, усё ж з-за таго, што не меў «бумажки» - пенсійнага пасведчання - я аказаўся «букашкой». Я страціў і пенсію, і стаж за той час. Аднак пакуль існавала так званая «ўраўнілаўка» пры памесячным налічэнні пенсіяў і стаж не адыгрываў ніякай ролі, пакуль аднолькава плацілі пенсіі і тым, хто адпрацаваў 45 гадоў, і тым, хто ў гэты час біў лынды, я маўчаў. А калі налічэнне пенсіі сталі весці з улікам стажу, то я звярнуўся ў сабес, каб удакладніць, які стаж прымаецца для разліку маёй пенсіі. Выявілася, што мне налічваюць толькі 41 год стажу, бо тыя тры месяцы не залічваюцца - маўляў, няма «бумажки». А да 42 гадоў не хапае 25 дзён, і гэтыя адзінаццаць месяцаў і 5 дзён мне таксама адкінулі як няпоўны год. Атрымалася, што ў мяне проста скралі адзін год і тры месяцы стажу і працягваюць ашукваць пры разліку пенсіі штомесяц.

Я звярнуўся са скаргай да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Скаргу тую пераслалі на разгляд у Міністэрства сацыяльнай абароны. Адтуль я атрымаў звычайную адпіску...

**Зыкфрыд Кузьма**

# Галоўны контраргумент - Нёман

**Працяг. Пачатак на стар. 1**

З усімі гэтымі довадамі можна (і трэба) спрачацца. Але галоўным контрдовадам усё роўна застанецца ён - Нёман. Усе рэкі па-свойму ўнікальныя. І наш Нёман таксама. Усё, што яму патрэбна зараз ад людзей - гэта беражлівыя, нават цёплыя адносіны. Нёману і так ужо ад іх (гэта значыць, ад нас) перапала: у выніку меліярацыі і змяншэння сцёку яго прытокаў, значна скараціўся і яго ўласны расход вады, што бачна няўзброеным вокам. Шкодны ўплыў на ягоны гідралагічны рэжым аказала здабыча пясчана-гравійнай сумесі з рэчышча, а ўжо пра безупыннае забруджванне неачышчанымі сцёкамі і гаворкі няма. Будоўля ГЭС - гэта грубейшае ўмяшальніцтва ў прыродную раўнавагу (і без таго небездакорную).

Колькі б ні казалі праектыроўшчыкі пра тое, што «усе негатыўныя наступствы будуць зведзены да мінімума», мы ведаем, што гэта «отмазка». Людзі яшчэ не навучыліся дакладна ацэньваць наступствы парушэння экалагічнай раўнавагі. Даволі адносна іх можна прыкінуць толькі на бліжэйшыя пяць-дзесяць гадоў, а што потым? Грошы, укладзеныя ў праект, што сябе не апраўдаў, - гэта ў нашай эканамічнай сітуацыі злачынства, але не «канец свету», іх можна зарабіць, а дзе мы возьмем другі такі Нёман?

Зараз у Расеі «зялёныя» усё шырэй разгортваюць рух «Дапаможам рацэ». Адзін з праектаў гэтага года - форум - мае назву «Ці ёсць месца плацінам ў XXI стагоддзі?» З 1998 года распачала працу Сусветная камісія па плацінах, якая праводзіць ацэнку таго, наколькі эфектыўна чалавецтва карыстаецца воднымі рэсурсамі. Грамадская свядомасць змяняецца. Ужо нікога не ўзрушае словазлучэнне «пакараць прыроду». А ў Гродне ўзгадалі пра ГЭС.

Намеры адносна інвеставання пакуль яшчэ не перайшлі ў стадыю праектавання. Пасяджэнне ў гарвыканкаме з гэтай нагоды з удзелам усіх зацікаўленых ведамстваў прайшло стрымана. Шмат пытанняў засталося без адказаў. Напрыклад, адно з самых галоўных - эканамічная эфектыўнасць. Ці варта агарод гарадзіць дзеля дадатковых 18-20 МВт электрычнасці? Як плаціна адаб'ецца на гідралагічным рэжыме ракі? На жывёльным і раслінным свеце ракі і затапляльных тэрыторыях? Што будзе з водазаборам «Пагараны», які аказваецца ў ніжнім б'ефе плаціны Гарадзенскай ГЭС? І нарэшце, ці ёсць у энергетыкаў альтэрнатыва будаўніцтву гэтых гідратэхнічных збудаванняў у раёне Гродна?

У наступным нумары газеты мы паспрабуем адказаць на некаторыя з гэтых пытанняў. Мы запрашаем нашых чытачоў да дыскусіі па праблеме будаўніцтва ГЭС на рацэ Нёман. Насельніцтва горада і вобласці мае права выказаць свае адносіны да яе. Рака - гэта ж не толькі крыніца электраэнергіі.

**Ніна Палуцкая**

# Кантрабандныя «сотавікі»

**Беларускія пагранічнікі сутыкнуліся з новым відам кантрабанды. Напачатку тыдня пры афармленні ў пункце пропуску "Гродна-1" пасажырскага цягніка "Варшава - Вільнюс", які прыбыў з Польшчы, у адным з вагонаў пагранічны нарад знайшоў 16 сотавых тэлефонаў. Як звычайна бывае ў такіх выпадках, гаспадара кантрабанднага грузу выявіць не ўдалося.**

Сотавыя тэлефоны перададзены ў мытныя органы для ацэнкі. Затым, хутчэй за ўсё, яны будуць перададзены ў даход дзяржавы.

**Вячаслаў Будкевіч**

# «Пяе над Гароднай гітара»

**14 красавіка ў Гродне завяршыўся трэці абласны фестываль гітарыстаў «Пяе над Гароднай гітара».**

Сёлета фестываль упершыню быў аб'яўлены адкрытым, у ім удзельнічалі маладыя музыканты не толькі з Гарадзенскай вобласці. Усяго ў фестывалі ўзяло ўдзел каля 40 чалавек. Для многіх з іх гэта быў, бадай што, адзіны шанец паказаць сваё майстэрства, паколькі ў іншых абласцях краіны такія конкурсы не праводзяцца.

Акрамя непасрэдна конкурснай праграмы, на фестывалі прайшлі канцэрты гітарыстаў-прафесіяналаў, дыпламантаў і лаўрэатаў міжнародных конкурсаў з Гродна, Магілёва і Менску. Сярод арганізатараў фестывалю - упраўленне культуры Гарадзенскага аблвыканкама, абласная філармонія, музычнае вучылішча, дзіцячая музычная школа № 1 Гродна, гісторыка-археалагічны музей і гарадскі Дом культуры.

**Ася Куніцкая**

# Мастоўскія школьнікі займелі сваю газэту

**У Мастах убачыў сьвет першы нумар моладзевага выданьня «Школьныя навінкі». Бюлетэнь друкуецца накладам 299 паасобнікаў, мае чатыры старонкі і распаўсюджваецца на пяць школак. Выданьне адметнае тым, што рэдагуецца шкалярамі - дзесяцікласьніцай Тацьцянай Гладухавай і васьмікласьніцай Вольгай Дзятлоўскай.**

Карэспандэнты, шкаляры дзесятай клясы, пішуць пра набалелае. Дыскатэкі бываюць толькі раз на тыдзень. Але на іх нават пацалаваца нармальна нельга, бо «з кожнага кутка за ўсімі сочаць настаўнікі». Выкладчыца хіміі ледзьве не атруціла сваіх выхаванцаў невядомым рэчывам. А вучні прагульваюць заняткі таму, што настаўнікі ставяцца да іх зьняважліва. І ўвогуле, паводле апытаньня рэдакцыі «Школьных навінак», школу любяць толькі 15 са 100 шкаляроў.

Рэдкалегія абяцае закранаць усе маладзевыя турботы і пытаньні, а таксама інфармаваць чытачоў пра цікавыя падзеі гораду.

**Юлія Дарашкевіч**

# Вясёлка творчасці

**18 красавіка паводле ініцыятывы Палаца творчасці дзяцей і моладзі прайшоў штогадовы абласны фестываль «Вясёлка творчасці».**

Арганізатарамі фестывалю выступілі: абласны камітэт Чырвонага Крыжа, Гарадзенскае абласное аддзяленне Фонда Міру, Беларускі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі, а таксама Гарадзенскае прадстаўніцтва беларускага фонда сацыяльнай падтрымкі дзяцей і падлеткаў «Мы - дзецям».

У фестывалі бралі ўдзел дзеціінваліды з Гродна, Ліды, Мастоў, Ашмянаў, Скідаля ды іншых гарадоў Гарадзенскай вобласці.

На працягу некалькіх гадзін дзеці наведалі разнастайныя творчыя выставы, у тым ліку выставугутарку «Вялікдзень - свята святаў», вернісаж творчасці «Горад майстроў». У праграме «Мы вам рады» дзеці пазнаёміліся з работамі гурткоўцаў Палаца творчасці дзяцей і моладзі.

Завяршылася праграма святочным канцэртам, які прынёс дзецям шмат задавальнення. Цяпер іх будуць чакаць у наступным годзе на ўжо традыцыйным фестывалі.

**Аляксей Сціпанаў**

# «Лепрыконсы» на шляху да Гродна

**23 красавіка ў навяўленай канцэртнай зале «Гродна» адбудзецца канцэрт беларуска-расейскага гурта «Лепрыконсы».**

Тым, хто захоча паслухаць песні «Лепрыконсаў» з альбома «Супер-паратрупер» і пагалядзець на музыкантаў, што называюць «ужывую», давядзецца заплаціць тры тысячы рублёў. Квіткі можна набыць у касах канцэртнай залы, абласной філармоніі, а таксама ў распаўсюджвальнікаў.

Дарэчы, на Гарадзеншчыне музыканты дадуць два канцэрты: 22 красавіка - у Лідзе, 23 красавіка - у Гродне. Гэтым канцэртам «Лепрыконсы» завершаць свой тур па гарадах Беларусі, а, як кажуць імпрэсарыо: «самыя лепшыя канцэрты, якія праходзяць у рамках турнэ - гэта першы і апошні».

**Надзея Салыга**



# Палякі гатовыя дапамагаць беларусам. Калі яны самі захочуць сабе дапамагчы

**Эксклюзіўнае інтэрв'ю Надзвычайнага і Паўнамоцнага Амбасадара Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь Марыюша Машкевіча**



Марыюш Машкевіч

Даведка Марыюш

Машкевіч нарадзіўся ў 1959 годзе ў горадзе Ілава Олштынскага ваяводства (якое мяжуе з Калінінградскай вобласцю Расеі). Доктар сацыялогіі (1993 г.). Валодае рускай, ангельскай і нямецкай мовамі. У 1988-1990 гадах - намеснік галоўнага рэдактара рэгіянальнага часопіса «Дыскурс». У 1990 годзе - начальнік аддзела, намеснік дырэктара аддзела грамадзянскіх справаў ваяводскага ўпраўлення ў горадзе Чэнстахове. У 1990-1991 гадах - у Міністэрстве замежных справаў Польшчы: у дэпартаменце па консульскіх і эміграцыйных пытаннях, саветнік міністра - начальнік аддзела. У 1991-1994 гадах - у Амбасадзе Рэспублікі Польшча ў Літве, саветнік - паўнамоцны міністр. У 1994-1997 гадах - генеральны консул Рэспублікі Польшча ў Гродне. У 1997-1998 гадах - саветнік міністра замежных справаў Польшчы. З чэрвеня 1998 года - Надзвычайны і Паўнамоцны Амбасадар Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь.

***- Спадар Амбасадар, Вы ўжо амаль два гады ў Менску. Што новага адбылося ў дзейнасці Амбасады за час Вашага знаходжання тут?***

- Калі ўлічваць мой консульскі стаж у Гродне, у Беларусі я знаходжуся ўжо болей за пяць гадоў. Самым важным вынікам апошніх гадоў можна лічыць тое, што нам удалося заўважна пашырыць кола беларускіх арганізацыяў і ўстановаў, з якімі мы ўзаемадзейнічаем. У консульскага аддзела з'явілася новае памяшканне, і зараз мы можам абслугоўваць большую колькасць беларускіх грамадзянаў і ў лепшых умовах. Польскі інстытут у Менску таксама атрымаў новы офіс і сістэматычна нарошчвае сваю актыўнасць.

Сярод важнейшых палітычных і эканамічных акцыяў я б назваў некалькі сустрэчаў на міністэрскім узроўні. Год таму, у красавіку, прайшлі палітычныя кансультацыі паміж міністэрствамі замежных справаў Беларусі і Польшчы.

Важнымі культурнымі акцыямі Амбасады можна лічыць правядзенне ў 1999 годзе сьвяткавання Года Шапэна і Манюшкі. Польскі інстытут у Менску арганізаваў у рамках гэтых юбілейных урачыстасцяў цыкл канцэртаў і сустрэчаў.

***- Паляпшэнне ўзаемаадносінаў паміж Польшчай і Беларуссю, відавочна, з'яўляецца адной з задачаў, якія Міністэрства замежных справаў ставіць перад Амбасадай. Што ў гэтым кірунку ўдалося здзейсніць і што яшчэ належыць зрабіць?***

- Я заўсёды падкрэсліваў, што суседняй Беларусі мы гатовыя дапамагаць, але толькі тады, калі будзе выказана адпаведная палітычная воля. Менавіта на такой аснове развіваецца нашыя адносіны з Украінай, дзе польскі досвед рэформаў прымаецца пазітыўна. Нядаўна было падпісана нават пагадненне наконт дапамогі польскіх эканамічных экспертаў у рэфармаванні народнагаспадарчага комплексу Украіны.

Мы імкнемся пашырыць супрацоўніцтва з беларускімі навуковымі і адукацыйнымі ўстановамі. Амбасада апошнім часам ажыццявіла шэраг ініцыятываў, у іх ліку - канферэнцыі, стажыроўкі для маладых беларускіх журналістаў і студэнтаў. Удалося правесці некалькі сустрэчаў і канферэнцыяў, якія даюць уяўленне пра эканамічныя і грамадскія зрухі ў Польшчы - пра рэформы ў галіне эканомікі, самакіравання, аховы здароўя, знешняй палітыкі. У прыватнасці, нам хацелася азнаёміць беларускую грамадскасць з польска-нямецкімі адносінамі ў новым вымярэнні, паказаць удзел Польшчы ў пабудове сістэмы бяспекі ў Еўраатлантычным рэгіёне. Мы імкнуліся, каб гэтыя ініцыятывы мелі не прапагандысцкі характар, а сталі зыходным пунктам для дыскусіяў наконт мажлівых шляхоў рэформаў і пераўтварэнняў у Беларусі.

***- Ці ёсць ва ўрада Польшчы свой погляд на сітуацыю, якая склалася ў Беларусі? Калі так, дык чаму мы пра гэта нічога не ведаем? Іншымі словамі: якая палітыка Польшчы ў дачыненні да Беларусі?***

- Меркаванне, што ў Польшчы няма сваёй палітыкі ў дачыненні да Беларусі, беспадстаўнае. У пацверджанне контртэзіса можна прывесці, напрыклад, сустрэчы на міністэрскім ўзроўні. Так, у мінулым годзе адбыліся палітычныя кансультацыі паміж міністэрствамі замежных справаў Польшчы і Беларусі, падпісана пагадненне паміж міністрамі аховы прыроды. Паспяховым быў візіт намесніка міністра эканомікі Б.Блашчыка, які прыняў удзел у традыцыйным эканамічным семінары «Добрасуседства». У Менску з рабочым візітам знаходзіўся намеснік міністра транспарту К.Тхужэўскі. У Брэсце ў снежні мінулага года адбылося чарговае пасяджэнне камісіі па трасмежнаму супрацоўніцтву, у якой прыняў удзел намеснік міністра ўнутраных справаў Б.Варусевіч. Былі таксама візіты польскіх парламентарыяў, якія азнаёміліся з палітычнай сітуацыяй у Беларусі, з праблемамі этнічных палякаў, што пражываюць у Беларусі. На пачатку сакавіка ў Менск прыязджаў галоўны камендант польскай паліцыі.

Канешне, можна прывесці прыклады эканамічнага характару альбо з галіны гандлю. Тут сапраўды адбыўся сур'ёзны рэгрэс, бо гандлёвы абарот зменшыўся на 30 працэнтаў. І гэта галоўны боль не толькі для Амбасады, але і для ўсёй польскай дзяржавы, таму што гэтая праблема мае больш шырокае вымярэнне і датычыць усіх краінаў, што ўваходзяць у СНД.

***- У студзені гэтага года Амбасада Польшчы была ініцыятарам беларуска-польскага форума аграрыяў. Якія Вашыя планы супрацоўніцтва з беларускімі арганізацыямі ці ведамствамі?***

- Зараз вядзецца падрыхтоўка да правядзення канферэнцыі, на якой мяркуецца заснаваць Форум па супрацоўніцтву ў галіне выкарыстання прадуктаў сельскай гаспадаркі. Канферэнцыя прызначана на сярэдзіну траўня ў Брэсце. Я чакаю канчатковага рашэння беларускага Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання - ці возьме яно апякунства над гэтым прадпрыемствам і ці будзе яго падтрымліваць.

***- Што б Вы маглі сказаць пра ўзаемаадносіны нашых прэзідэнтаў - Аляксандра Лукашэнкі і Аляксандра Квасьнеўскага? Ці плануе Міністэрства замежных справаў Польшчы рыхтавацца да іх сустрэчы? Бо што ні кажы, а суседзі павінны сустракацца, размаўляць...***

- Да сустрэчаў на вышэйшым узроўні пакуль справа не дайшла, але польскі бок імкнецца падтрымліваць жывыя рабочыя кантакты з беларускімі партнёрамі з разнастайных ведамстваў і ўстановаў.

***- Што Вы мяркуеце наконт перамоваў беларускіх уладаў з апазіцыяй? Ці прывядуць яны да нейкіх вынікаў?***

- Я спадзяюся, што вынікі перамоваў «улада-апазіцыя» будуць пазітыўнымі, і ўвосень адбудуцца свабодныя, дэмакратычныя парламенцкія выбары. Падчас мінулагодніх перамоваў я прапанаваў спадару Сазонаву і прадстаўнікам апазіцыі правесці ў Менску канферэнцыю на тэму «Пра вопыт «круглага стала» Польшчы 1989 года». Нам ёсць што сказаць па гэтаму пытанню, таму што ўлада і апазіцыя ў ранейшай Польшчы былі далей адзін ад аднаго, чым улада і апазіцыя ў сённяшняй Беларусі. У нас было болей нянавісці і недаверу з абодвух бакоў. Бо ў палякаў быў трагічны досвед, звязаны з працістаяннем і пераследамі апазіцыі. Многія дзеячы апазіцыі, якія адважыліся сесці за стол перамоваў з камуністычнымі ўладамі, атрымалі пасля шматгадовыя тэрміны зняволення, часам падвяргаліся катаванням і пераследам. Мяркую, што ў гэтай сувязі атмасфера ў Беларусі болей спрыяе дыялогу. Як улады, так і апазіцыя, ўсведамляюць цяжкае эканамічнае становішча беларускай дзяржавы і праблемы ў грамадстве. Чым раней удасца знайсці ўзаемаразуменне, тым лепей для ўсёй Беларусі.

Польскі бок не застаецца ў гэтай сітуацыі абыякавым. Я хачу падкрэсліць тут сваю асабістую прыхільнасць як да дыялогу, які праводзіцца ў рамках місіі АБСЕ (арганізацыі, дзе Польшча з'яўляецца даволі актыўным сябрам), так і да іншых нефармальных сустрэчаў улады і апазіцыі. Я заўсёды заклікаю да дыялогу. Гэта мая пазітыўная выснова з той сітуацыі, у якой знаходзілася Польшча напрыканцы 80-их гадоў.

***- Напрыканцы сакавіка споўнілася два гады ад пачатку перамоваў «Польшча-Еўрасаюз» па пытаннях інтэграцыі. Як Вы ацэньваеце магчымасць для Польшчы стаць сябрам Еўрасаюза ўжо ў 2003 годзе?***

- Інфармацыя наконт гэтага ёсць у рускамоўным бюлетэні, прысвечаным нашым перамовам пра членства ў ЕС. Прапаную зацікаўленым журналістам азнаёміцца з гэтай інфармацыяй і даведацца пра падрабязнасці нашых перамоваў па асобных накірунках. Што датычыць адаптацыі польскага заканадаўства да прынцыпаў функцыянавання Еўрапейскага саюза, то яна працягнецца, верагодна, не адзін год. Працэс даволі складаны, але я думаю, што праз два-тры гады ён усё-ткі завершыцца.

***- Якія задачы належыць вырашыць Амбасадзе ў той акцыі еўрапейскага маштабу, якой з'яўляецца ўваход Польшчы ў Еўрапейскі саюз?***

- Польская Амбасада ў Менску не прымае, мажліва, досыць вялікі ўдзел у гэтым працэсе, але не меней важна, што наша ўстанова цесна супрацоўнічае з амбасадамі краінаў Еўрасаюза, якія знаходзяцца ў Менску. Гэта падрыхтоўвае адзіную палітыку ў дачыненні да Беларусі, і таму абмен досведам і пунктамі гледжання адыгрывае тут немалаважную ролю.

# Прага чэская й... беларуская

**Прага шмат для каго пачынаецца з галоўнага вакзалу (Hlavni nadrozi). Тут адразу можна пакінуць рэчы ў камэры захоўваньня, набыць мапу ды пашукаць рэклямных улётак з адрэсамі й тэлефонамі розных гатэляў. Дарэчы, аб гатэлях: у Празе іх працуе шмат ды ў розных раёнах гораду. Кошты вагаюцца ад 6 да 12 даляраў за ноч і залежаць ад «люксу» апартамэнтаў, месца знаходжаньня гатэлю, наяўнасьці дадатковых паслугаў (сьнyданак, напрыклад) і г.д.**

Большасьць гатэляў дае скідкі тым, хто спыніўся ў іх на некалькі дзён. Ужо нават недалёка ад вакзалу можна знайсьці першы асяродак беларушчыны ў Празе - гэта «Радыё Вольная Эўропа (Радыё Свабода)». Станцыя гэтая разьмешчаная ў будынку былога чэхаславацкага парляманту, які стаўся непатрэбным у выніку мірнага разыходу чэхаў і славакаў напачатку 90-х. На «Радыё Свабода» стала працуе беларуская рэдакцыя (чатыры гадзіны эфіру на суткі) і заўсёды там ёсьць хтосьці з «нашых».

Побач з «Радыё Свабода» знаходзіцца галоўны музэй Чэскай Рэспублікі -Народны Музэй. Ягоная экспазыцыя зьмяшчае гісторыю, геаграфію, геалёгію, жывёльны ды расьлінны сьвет і шмат чаго іншага, што мае дачыненьне да Чэхіі й чэхаў. Апроч сталай экспазыцыі, увесь час зьяўляюцца часовыя выставы. Дарэчы, для студэнтаў квіткі ў праскія музэі, на выставы ды іншыя культурныя мерапрыемствы зазвычай каштуюць на 50% танней. І, акрамя таго, кожны музэй раз на тыдзень альбо раз на месяц мае дзень дармавога ўваходу.

Яшчэ троху скажу пра сыстэму абмену валюты ў Чэхіі. Акрамя розьніцы курсу куплі ды продажу, там існуе яшчэ й камісійны збор за абмен. Ён вагаецца ад 1 да 10-ці працэнтаў ад сумы абмену, але ня меней за нейкую мінімальную мяжу. Зазвычай больш-менш памяркоўны курс ды камісійныя ў «Чэскай Спажытэльні», прычым мяняць выгадна ад 50 даляраў і болей. Але гэта ўсё дробязі. Падчас пабыту ў чэскай Празе нам дужа пашчасьціла, бо ўжо ў першы ж дзень пазнаёміліся з чэскім беларусам панам Уладзіславам Янъдзюком. Дзякуючы пану Уладзіславу, мы ўпершыню патрапілі на «Радыё Свабода», ён паказаў, дзе знаходзяцца магілы прэзыдэнтаў БНР Пётры Крэчэўскага й Васіля Захаркі, магіла беларускага сьпевака Міхася Забэйды-Суміцкага, арганізаваў вандроўку ў Кутну Гору, а таксама шмат-шмат чаго іншага. Дапамога й парады пана Уладзіслава зрабілі наш побыт у Празе лёгкім ды прыемным. Вялікі яму дзякуй за гэта!



**Помнік беларускаму першадрукару Францыску Скарыне ў Празе**

А цяперака перасунемся на 70 кіламэтраў ад Прагі - у Кутну Гору. Зараз гэта невялікае мястэчка, а калісьці горад быў другім па ўплыве ў Чэхіі. А ўсё таму, што мясцовыя нетры былі насычанымі срэбрам у XIII-XIV стст. У Кутнай Горы здабывалася траціна эўрапэйскага срэбра. Тамака, па ўсёй верагоднасьці, упершыню былі выбіты талеры. У нашыя дні можна спусьціцца ў былыя шахты, асабіста пазнаёміцца з працай сярэднявечных шахцёраў, пабываць на манэтным двары, наведаць сабор Сьвятой Барбары, езуіцкі калегіюм, паглядзець камены вадаём, гумны слуп і шмат іншага. Але я асабіста раю не прапусьціць касьцёл Усіх Сьвятых з касьцерняй (Kostnica) у Седлецэ, каля Кутнай Горы.

Некалі падчас эпідэміі чумы сотні тысячаў людзей былі пахаваныя вакол касьцёла, але праз пэўны час зямля паціху была прададзена, а людзкія косткі былі складзеныя ў касьцерні і выкарыстаны (прабачце, эстэты) для аздабленьня нетра касьцёла. Калі знаходзішся ў атачэньні соцень тысячаў чалавечых чарапоў і костак, то разумееш сваё прызначэньне на сьвеце, а сама сьмерць здаецца нейкай драбніцай.

На наступны дзень мы вырашылі знайсьці «сьляды Скарыны» ў Празе. У гэтым нам дапамог Сяржук Сокалаў-Воюш. Ён дакладна паказаў месцы, дзе знаходзіцца помнік Францішку Скарыну й мэмарыяльная дошка ў яго гонар. Апошняя ўсталяваная ў двары Кнігоўні (Knihovna) на Карлавай вуліцы (працяг Карлава моста), дзе ў 1517 годзе была выдадзеная першая беларуская кніга. Зараз у Кнігоўні знаходзіцца бібліятэка Карлавага ўнівэрсытэту. Помнік Францішку Скарыну пастаўлены на Градчанах (вуліца Елені), недалёка ад праскага Граду, рэзыдэнцыі каралёў, а цяпер - прэзыдэнта Чэскай Рэспублікі. Дарэчы, чэхі спачатку не жадалі ставіць помнік, аргумэнтуючы гэта тым, што калі ставіць помнікі ўсім, хто ў Празе штo-небудзь рабіў, то месца ў горадзе ня хопіць. Тады Скарыну прадставілі як батаніка караля Фэрдынанда, і чэхі пагадзіліся. Таму зараз на мэмарыяльнай дошцы, каля помніка, спачатку ўзгадваецца, што Скарына быў каралеўскім батанікам, а ўжо потым, што зьяўляецца першым беларускім першадрукаром.

Ледзьве не забыўся распавесьці пра піва. Піва ў Чэхіі - крыніца невычарпальная. Таннае, як у нас, але чамусьці заўсёды халоднае, ды прыняць яго за сталом, а не ў нейкай чарзе за стойкай, і пад'есьці можна ў бары да адвалу. Але мне больш спадабаліся тамтэйшыя вінарні. Выкшталцонае мараўскае віно, шкварчовыя каўбаскі, вяндліца з сырам. Ды што пісаць, частавацца трэба! Пра ўсё не распавядзеш, бо Чэхія - гэта адроджаная нацыя, праская вясна, Вацлаў Гавэл, аксамітная рэвалюцыя, гаючыя мінэральныя крыніцы. Так што, бярыце пашпарт, грошы, ISIC ды іншую дробязь й самі ўсё пабачыце ды даведаецеся (нават мо болей за мяне)!

А, увогуле, Прага - цудоўнае ды выкшталцонае месца. Тамака адразу разумееш, што такое адзін зь лепшых гарадоў сьвету. Асаблівага гонару надае тое, што да гэтага цуду спрычыніліся шмат нашых землякоў-беларусаў. І ўдзячныя пражане шануюць праз стагодзьдзі памяць пра іх.

**Ільля Глыбоўскі**

ПЯРЭСТЫ КУТ

# А што будзе на вашым Велікодным стале?

### Святочны пірог

У шклянцы цёплага малака распусціць трэцюю частку пачка дражджэй, дадаць сталовую лыжку цукру. Калі ў місе з'явіцца пена, уліць тры расцёртыя яйкі са шклянкаю цукру і ўсыпаць тры шклянкі прасеянай мукі. Дадаць адну чайную лыжачку карыцы, ванілі, паўшклянкі разынак. Добра вымесіць, каб адставала ад рук, паставіць у цёплае месца і накрыць ручніком. Калі цеста падыйдзе, абмяць яго і яшчэ раз паставіць у цяпло.

Калі цеста ўздымецца ў трэці раз, падзяліць яго на дзве часткі і пакласці ў формы, толькі напалову запаўняючы іх. Для формаў можна скарыстоўваць невялікія каструлі, нават бляшаначкі з-пад кавы.

Верх цеста, пакладзенага ў форму, змазаць яйкам з вадою. Упрыгожыць тонка раскатаным цестам. Паставіць у цёплую духоўку. Калі цеста ўздымецца - павялічыць тэмпературу ў духоўцы.

Выпякаць прыблізна 30 хвілін.

### Велікодная тварожная пасха

Патрымаць пад прэсам кілаграм тварагу. Працерці праз сіта. Змяшаць з 200 грамамі сметанковага масла. Дадаць 400 грамаў смятаны, а таксама 400 грамаў тоўчанага з ваніллю цукру, расцертага з двума-трыма жаўткамі, 100 грамаў разынак. Усё перамяшаць, выкласці ў форму, пакласці на суткі пад прэс.

# Пасланні Усявышняму

**Некаторыя людзі звяртаюцца з асабістымі пасланнямі да Госпада Бога.**

Сапраўды, Усявышняму адрасаваны цэлыя горы лістоў, якія ляжаць на асобным складзе галоўнай пошты Іерусаліма. Людзі пішуць Госпаду Богу з усіх куткоў свету, звяртаюцца да яго з самымі рознымі просьбамі. Апошнім часам сталі прыходзіць у Іерусалім і лісты з Беларусі.

Адпаведна словам дырэктара пошты Машэ Бэн Мэйера, лісты далей не перапраўляюць, але і не вяртаюць аўтарам. На самой справе, дзіўным падаецца б надпіс: «Адрасат невядомы».

**Падрыхтаваў Канстанцін Карнялюк**

# Ёсьць кіты на Беларусі!

**На мінулым тыдні гарадзенцы адзначалі 90-годдзе Барыса Кіта - беларуса, які стаў бацькам сусьветнае астранаўтыкі.**

Вечарына, якая прайшла ў Новым замку, сабрала каля паўсотні яговых прыхільнікаў, вучняў і сяброў. Прыехалі й вядомыя «кітазнаўцы» - аўтары кніг пра Барыса Кіта - Лідзія Савік зь Менску і Аляксей Анішчык з Навагрудку.

Старшыня Гарадзенскай краязнаўчай арганізацыі Андрэй Майсяёнак, дзякуючы якому і адбылася імпрэза, перадаў гісторыка-археалягічнаму музэю партрэт Барыса Кіта, а таксама копіі ягоных ўзнагародаў. Пазьней гэтыя копіі заменяць арыгіналамі, бо спадар Кіт напярэдадні юбілею вырашыў увесь свой прыватны архіў перадаць у гарадзенскія музэі.


Барыс Кіт

Барыс Кіт вынайшаў паліва, на якім лётаюць усе касьмічныя караблі. А да гэтага ён адкрываў беларускія школы ў савецкія часы. Падчас другой сусьветнай вайны выкладаў у Маладэчанскай настаўніцкай сэмінарыі, хоць гэта і было забаронена. Ратаваў людзей ад угону ў Нямеччыну. У Глыбокім сядзеў у турме й чакаў расстрэлу - але ягоныя вучні дапамаглі вызваліцца. Пасьля эміграцыі ў Амэрыку браў удзел у праграмах распрацоўкі вадароднага паліва для касьмічных сістэмаў. Удзельнічаў у першых гістарычных перамовах паміж СССР і ЗША аб супрацоўніцтве ў галіне астранаўтычных дасьледаваньняў. Ён заснаваў адну з самых вялікіх беларускіх калёніяў у Амэрыцы (Саўт-Рывер, штат Нью-Джэрсі).

Барыс Кіт чытаў лекцыі амаль ва ўсіх найбуйнейшых унівэсытэтах сьвету - нават у індыйскіх і японскіх. Ён быў адным з першых ініцыятараў стварэньня Беларускага Нацыянальнага ўнівэрсытэту ў нашым краі, на'т знайшоў магчымыя крыніцы ягонага фінансаваньня. Але на Беларусі зьмянілася ўлада...

Ён - матэматык, фізік, доктар філязофскіх навукаў. Акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі (Парыж), віцэ-прэзыдэнт Міжнароднай акадэміі навук Эўразіі, стрэйшы сябра Амэрыканскага астранаўтычнага таварыства, ганаровы сябра Брытанскага і Нямецкага міжпланетных таварыстваў, заслужаны прафесар Вашынгтонскага Мэрылендскага ўнівэрсытэта, залаты медаліст нямецкага навуковага таварыства імя Германа Обэрта...

Барыс Кіт зьяўляецца ганаровым прафэсарам Гарадзенскага ўнівэрсытэта імя Янкі Купалы і ганаровым грамадзянінам Навагрудку.

Зараз наш зямляк жыве ў Нямеччыне, у Франкфурце-на-Майне. Ён поўны аптымізму і знаходзіцца ў добрым здароўі - калі спазьняецца, зь лёгкасьцю даганяе трамвай. Лічыць, што «адпачываць будзем на тым сьвеце». Напярэдадні свайго 90-гадовага юбілею зьезьдзіў наведаць амэрыканскіх сяброў.

А вось на Радзіму Барыс Кіт так і не вярнуўся. Як і тысячы іншых беларускіх эмігрантаў, ён ня лічыць магчымым жыць у сёньняшняй Беларусі. Хаця Бацькаўшчыну сваю не забывае: кожны тыдзень тэлефануе шматлікім беларускім сябрам і вучням.

Гарадзенцам, якія сабраліся, каб адзначыць ягоны дзень народзінаў, Барыс Кіт даслаў прывітальны ліст з падзякай «за вашае ласкавае жаданьне прыйсьці на гэты асаблівы сход, якім я так ганаруся і радуюся... Я адчуваю сябе шчасьлівым і ўдзячным Богу за ўсё маё доўгае жыцьцё і што я змог асягнуць пэўныя пазытыўныя рэчы для сябе, для нашай Бацькаўшчыны і для ўсяго сьвету...

...Хай Бог мае Вас усіх у сваёй апёцы!

Жыве Беларусь!»

**Юлія Дарашкевіч**



**Па гарызанталі:** 7.Народ у Еўропе. 8.Форма эканоміі тканіны (кравец). 10.Геена, тартар. 11.Галоўны горад дзяржавы. 12.Прылада муляра. 14.Якое дрэва лічыцца нацыянальным сімвалам Аўстраліі? 16.Вялікая, высокая чарка. 17.Зараснікі маладых дрэўцаў. 19.Ствол галоўкі капусты без лістоў. 20.Жывы арганізм. 24.Што пераносіць мангол? 25.Беларускі паэт родам са Слонімшчыны. 26.Паліцэйскі чын. 30.Ежа. 31.Працэс разбурэння хвалямі марскіх берагоў. 32.Што такое калым? 33.Паўднёвае пладовае дрэва. 34.Расліна з грыба і водарасці.

**Па вертыкалі:** 1.Курорт у Стаўрапольскім краі. 2.Сродкі перамяшчэння, сувязі. 3.Мужчынскае імя. 4.Асноўны музычны матыў. 5.Дзень пасля дожджыка. 6.Паўвостраў паміж Паўночным і Балтыйскім марамі. 9.Шатландскі народны танец. 13.Пустазелле сямейства злакавых. 15.Кароткі кавалачак дрэва. 17.Вопратка старажытных грэкаў. 18.Раённы цэнтр на Магілёўшчыне. 21.Грыб, які паразітуе на дрэвах. 22.Клетачная сістэма. 23.Фурман наёмнага экіпажа. 27.Падарожнік, які едзе за мяжу на танку. 28.Рымскі паэт, які «прыдумаў» белую варону. 29.Шаўковая або баваўняная тканіна. 32.Гарохава сваячка.

### Адказы на крыжаванку, змешчаную ў N12:

**Па гарызанталі:** 7.Шлемафон. 8. «Чарназём». 10.Іпуць. 11.Нальчык. 12.Чарэнь. 14. «Машэка». 16.Яблык. 17.Рука. 19.Фігура. 20.Змейка. 24.Нява. 25.Інвар. 26.Актава. 30.Люстра. 31.Ясельда. 32.Піроп. 33.Вірутнік. 34.Журавіны.

**Па вертыкалі:** 1.Элеватар. 2.Шарачак. 3.Логіка. 4.Жаль. 5.Энклаў. 6.Нёманскі. 9.Дулебы. 13.Выдма. 15.Эгіда. 17.Рэкет. 18.Ярына. 21.Цяцюшнік. 23.Уводзіны. 27.Квестар. 28.Урарту. 29.Вяпрук. 32.Пліс.

# Прасцей за простае

**У Вас ёсць чарговы шанец праверыць сваю інтуіцыю. Паспрабуйце даць правільную ацэнку прапанаваным ніжэй выказванням. Побач з імі стаўце «плюс», калі згодныя з напісаным, альбо «мінус» - калі не згодныя.**

**1.** Тэрмін службы ў войску ў старажытных рымлянаў складаў 25 гадоў.

**2.** Сярод грэнландскіх кітоў ёсць асобіны вагою да 150 тон.

**3.** З таго часу, як 11-гадовому Т.Нуньесу выдалілі міндаліны, ён не спіць ужо 45 гадоў.

**4.** Рыбы не маюць павекаў, вочы не заплюшчваюць, таму не спяць.

**5.** Гальштук у мужчын часта з'язджае ў левы бок.

**6.** Яшчэ 20 гадоў таму было ўстаноўлена, што ў многіх бегуноў на доўгія дыстанцыі ўзнікаюць праблемы ў інтымным жыцці.

**7.** Пісьмёны старажытных этрускаў дагэтуль лічацца невырашальнай загадкай для навукоўцаў.

**8.** У 1887 годзе італіец Скарлей вынайшаў веласіпед.

**9.** Назва амерыканскага штата Місісіпі паходзіць ад індзейскага выразу, які азначае «вялікая рака».

**10.** Калі чалавецтва яшчэ не выйшла з каменнага веку, а па зямлі шпацыравалі маманты, на скале атабарыўся сапраўдны чэмпіён даўгалецця ў раслінным царстве - лішайнік. Дыяметр лішайніка, знойдзенага ў Арктыцы, быў 49 см.

**11.** Сіні кіт большы за слана ў стольki ж разоў, у колькі чалавек большы за кошку.

**12.** Статуя Свабоды трымае паходню ў правай руцэ.

**13.** У Францыі ёсць горад, які называецца Ю.

**14.** Адной з прычынаў, што падахвоцілі Дэвіда Копперфілда займацца мудрагелістымі трукамі ў юным узросце, была адсутнасць інтарэсу да яго персоны з боку дзяўчат.

**15.** Навукоўцы Англіі стварылі "штучны нос", які здольны вызначаць, запамінаць і параўноўваць каля дзвюх тысячаў адценняў водару.

**Правільныя адказы:**

1-, 2+, 3+, 4-, 5+, 6+, 7-, 8-, 9+, 10-, 11+, 12+, 13-, 14+, 15-

**Падвядзем вынікі**

Вашы адказы поўнасцю супалі з правільнымі? З такой інтуіцыяй...далёка пойдзеце! Калі колькасць верных адказаў і блізка не сем - не засмучайцеся. Пашанцуе іншым разам. А цяпер - сцісла наконт адказаў з «мінусамі». 1) 30 гадоў; 4) спяць; 7) гішпанскі навуковец Х.Алонса знайшоў ключ для разумення гэтых пісьмёнаў; 8) па нацыянальнасці Скарлей англелец; 10) 48 см; 13) горад У; 15) каля тысячы адценняў.

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** На гэтым тыдні Вас чакае прыемнае спатканне са сваім добрым знаёмым. Будзьце ў цэнтры ўвагі.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Тыдзень абяцае вялікія змены. Калі, канешне, яны Вам патрэбныя. Будзьце ўважлівей да сваіх блізкіх.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** З'явіцца маса магчымасцяў, якімі Вы здолееце скарыстацца. Мабыць, некаму не хапае Вашага кахання?

♋ **Рак (22.06-22.07).** На гэтым тыдні залішне не загружайце сябе працай і не зацыклівайцеся на сваіх праблемах, якімі б значнымі яны Вам не падаваліся.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Сур'ёзна займіцеся найбольш важнымі справамі, якія датычацца Вашых блізкіх. Фартуна ўсміхнецца Вам у пятніцу.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Не забывайцеся, што на вуліцы - вясна. Часцей выбірайцеся адпачыць на ўлонні прыроды.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Пазбаўцеся кепскага настрою, як непатрэбнай зімовай вопраткі. Варта «прачнуцца» і дзейнічаць! Адразу адчуеце наплыў эмоцыяў і грошай.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Як бы Вы не стараліся змяніць што-небудзь у сваім асабістым жыцці, усё застанецца па-ранейшаму. Паглядзіце на праблему з другога боку: ці варта нешта мяняць?

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Зоркі раяць Вам правесці выхадныя дома, а ад вандраванняў устрымацца толькі ў нядзелю.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Спрыяльны тыдзень для наладжвання кантактаў. Рабіце ўпор на асабістае жыццё, хаця вырашэнне прафесійных пытанняў не менш актуальнае.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Набліжающца даволі вясёлыя дні, насычаныя падзеямі. Зоркі абяцаюць Вам шмат зменаў і новых знаёмстваў.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Звярніце ўвагу на самаадчуванне. На любоўным фронце ўсё спакойна, з працай жа могуць узнікнуць непрыемнасці.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні. Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Замова 1 352 Наклад 8 001 Нумар падпісаны да друку ў 16.00 19.04.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае прадстаўленым рэдакцыяй дыяпазітывам.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей